# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

19.07.12-25.07.12 г.


## КОЛЬКІ ШАНСАЎ




ЁСЦЬ У НАШАЙ АПАЗІЦЫІ

СТАР. 4-5

## ЦІ САП'ЕЦЦА



"ПРЭЗІДЭНЦКІ" РАЁН?

СТАР. 7

# САЮЗНЫ САЎМІН: ХАЦЕЛІ АДМОВІЦЦА, АЛЕ ЗГАДЗІЛІСЯ

Аднадзённы візіт у Мінск новага прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрыя Мядзведзева не стварыў сенсацый, аднак паглыбіў тэндэнцыі.

Прагнозы пацвярджаюцца: Беларусь паддаецца эканамічнаму націску з боку Расіі. Галоўным дасягненнем учарашняга візіту прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрыя Мядзведзева стала падпісанне генеральнага кантракта на будаўніцтва АЭС. Гэта тое, чаго чакаў беларускі бок на працягу ўжо некалькіх гадоў. Для Беларусі гэты кантракт значыць атрыманне 10 млрд долараў крэдыту, якія мяркуецца патраціць на будаўніцтва станцыі, але па факце ён не з'яўляецца звязаным, і пры неабходнасці Беларусь можа выкарыстаць гэтыя грошы, напрыклад, для падмацавання сваіх золатавалютных рэзерваў на выпадак якой сітуацыі. Гэта асабліва актуальна, улічваючы намер кіраўніцтва краіны ўзяцца за павышэнне заробкаў.

Акрамя дамовы па АЭС, 18 ліпеня былі падпісаны і іншыя дакументы ў межах Саюзнай дзяржавы (СД), аднак у параўнанні з коштам атамнага пытання яны выглядаюць нязначнымі (Міхаіл Мясніковіч ацаніў іх у 500 млн долараў).

Больш важныя тэндэнцыі ў дыялогу Беларусі і Расіі, што адзначаліся падчас сустрэч



*І атамнай станцыяй будуць камандаваць расіяне*

Дзмітрыя Мядзведзева з беларускімі прэзідэнтам і прэм'ерам.

> "Нягледзячы на тое, што напярэдадні Аляксандар Лукашэнка заявіў, што прадаваць "Беларуськалій" Беларусь пакуль што не мае намеру, Мядзведзеў усё ж нагадаў, што гэта трэба зрабіць, праўда, "з улікам інтарэсаў беларускай дзяржавы".

Першая — намер Расіі рэанімаваць праект Саюзнай дзяржавы. Калі зусім нядаўна А.Лукашэнка падымаў пытанне аб тым, ці не надышоў час паставіць крыж на СД ва ўмовах актыўнага развіцця Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП), то Мядзведзеў падкрэсліў, што ў аб'яднання Беларусі і Расіі вялікія перспектывы. Можна памыляцца, але здаецца, што Пуцін і Мядзведзеў падзялілі паміж сабой інтэграцыйныя праекты: прэзідэнт будзе адказваць за АЭП, а Дзмітрый Анатольевіч узяўся за развіццё СД. Міхаіл Мясніковіч удакладніў, што можа ўвайсці ў паўнамоцтвы Мядзведзева: дзяржпраграмы, гуманітарнае і, бадай, самае важнае, ваенна-тэхнічнае супрацоўніцтва.

Другая — працяг завуаляванага эканамічнага націску на Беларусь. Нягледзячы на тое, што напярэдадні Аляксандар Лукашэнка заявіў, што прадаваць "Беларуськалій" Беларусь пакуль што не мае намеру, Мядзведзеў усё ж нагадаў, што гэта трэба зрабіць, праўда, "з улікам інтарэсаў беларускай дзяржавы".

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## СПРОШЧАНЫ ПАРАДАК РЭГІСТРАЦЫІ ШЛЮБУ

24 ліпеня, пасля таго як набыў моц закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс аб шлюбе і сям'і», у Беларусі спрашчаецца парадак рэгістрацыі шлюбу, паведамляе БелаПАН.

Як паведаміла кансультант упраўлення натарыята і загсаў Міністэрства юстыцыі Алена Мяцельская 19 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску, мінімальны тэрмін, які павінен прайсці з моманту падачы заявы да рэгістрацыі ўзяцца шлюбу, паменшаны з 15 да трох дзён. Пры наяўнасці пацверджаных дакументальна асаблівых акалічнасцяў, такіх як наяўнасць агульнага дзіцяці, цяжарнасці ці іншых (камандзіроўка, стан здароўя і г.д.), шлюб можна зарэгістраваць і ў дзень падачы заявы. Максімальны тэрмін, які дапускаецца з моманту падачы заявы да рэгістрацыі шлюбу, як і раней, складае тры месяцы.

Упершыню замацавана магчымасць ажыццяўляць рэгістрацыю шлюбу ў любым органе ЗАГС па выбары асоб, якія бяруць шлюб.

Акрамя таго, даецца магчымасць правесці рэгістрацыю шлюбу за межамі памяшкання загса, напрыклад на прыродзе ці ў любым памяшканні, якія абяруць будучыя муж і жонка. Цяпер рэгістрацыя шлюбу праводзіцца органамі ЗАГС па месцы жыхарства адной з асоб, якія бяруць шлюб, ці іх бацькоў.

**АНАСТАСІЯ ЯНУШЭЎСКАЯ**

# 15 000 РУБЛЁЎ ЗА ДОЛАР ГЭТАЙ ВОСЕННЮ – ГЭТА РЭАЛЬНА?

Крызіс еўрапейскай валюты можа сур'ёзна "падсекчы" беларускі рубель і адпаведна айчынную эканоміку. Наколькі сур'ёзна, разважалі эксперты "Тут і цяпер".




*Нам грошай не трэба, працу давай!*

**ПАВАЛ ДАНЭЙКА, КІРАЎНІК ІНСТЫТУТА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ І МЕНЕДЖМЕНТУ (ІПМ):**

### "КАЛАПСУ НЕ БУДЗЕ".

— У еўразоне ёсць двайная залежнасць: яна з'яўляецца асноўным рынкам для кітайскай прадукцыі, адначасова Кітай з'яўляецца асноўным пакупнікам еўрапейскага тэхналагічнага абсталявання. Зніжэнне ў Еўропе попыту будзе, таму што скарачаюцца дзяржвыдаткі, і, натуральна, спажывецкі попыт на кітайскія тавары знізіцца. Кітай у адказ не будзе замаўляць у Еўропе дадатковае абсталяванне. Атрымліваецца такое замкнёнае кола. Рэцэсія будзе, але адаб'ецца яна для Беларусі праз Расію і цэны на нафту. Таму што беларуская прадукцыя на еўрапейскі рынак пастаўляецца ў нязначным аб'ёме. Гэта нафтапрадукты. Цэны на нафту знізяцца. Адпаведна, расійскі попыт скароціцца. Расійская стагнацыя закране і нас, але гэта не будзе такі крызіс, як папярэдні фінансавы. Тады былі перакрыты каналы фінансавання, а цяпер будзе павольнае развіццё рэцэсіі, заснаванай на зніжэнні попыту.

**НАДЗЕЯ СТАСЕНКА, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:**

### "НАМ ПАГРАЖАЮЦЬ УЛАСНАЕ ГЛУПСТВА І ЛАЙДАЦТВА".

— Няшчасная, ахопленая крызісам Грэцыя абыграла вялікую Расію на Еўра-2012. Прыгнечаная беспрацоўем Іспанія стала чэмпіёнам. Італьянцы, дзе крызіс набірае абароты, выйгралі ў немцаў. Варта падумаць, чаму раптам у гэтых краінах, дзе такія праблемы, людзі гуляюць у футбол за мільёны? Чаму яны так распусціліся і дазваляюць сабе нахабства выйграваць у немцаў, якія трымаюць усю фінансавую сістэму Еўрасаюза?

Беларусі пагражае не падзенне еўра, а ўласнае глупства і лайдацтва.

**ЛЕАНІД ЗАІКА, ЭКАНАМІСТ:**

### "ПА ВОСЕНІ БЕЛАРУСЫ, МАГЧЫМА, АДПУСЦЯЦЬ САБЕ ВУСЫ".

— Я б не стаў звязваць сітуацыю з еўра і становішча ў Беларусі. Мы займаем прыкладна 0,2 працэнта ў знешнім абароце Еўрасаюза. Дарэчы, як у любой маленькай краіны, у нас завышаны амбіцыі. А што тычыцца рэальнай сітуацыі, то асноўныя інфляцыйныя і курсавыя змены ўжо адбыліся. Таму сённяшнія суадносіны долара і еўра захаваюцца, а беларусам трэба думаць аб тым, як ім жыць далей, а не пра тое, як еўра будзе ўздзейнічаць на продажы. Яны ідуць. Ужо ледзь ці не палову беларускага экспарту складаюць нафтапрадукты. Станоўчае сальда гандлёвага балансу пры нізкім узроўні жыцця. Восенню нічога ўражвальнага не адбудзецца. Людзі вернуцца з адпачынкаў, пабачаць, што іх зарплата ў два з паловай разу ніжэйшая, чым у расіян; пераканаюцца ў тым, што больш змахваюць на малдаван. Магчыма, адпусцяць сабе вусы пасля гэтага, каб быць больш сімпатычнымі. У Беларусі палова насельніцтва жыве за кошт сацыяльных трансфертаў. Людзі разбэшчаны гэтай расійскай нафтай і танным газам. Чыноўнікі будуюць сабе дамы, урад размазвае вясёлыя фарбы на экранах тэлевізараў.

Але пры гэтым які сэнс нешта рэфармаваць, калі прададзім на паўтара мільярда долараў бензіну пад шыльдай растваральніка? Жывём бедна, цэны высокія, як пры ваенным камунізме. Але жывём! Наша праблема ў тым, што людзі ўжо не разумеюць і не хочуць нейкіх змен. Пры чым тут праблемы еўра?

**ВАРВАРА КАРОЛЬЧЫК, МЕНЕДЖЭР:**

### "НАС ЧАКАЕ КАПАННЕ БУЛЬБЫ І РАСПРОДАЖ АКТЫВАЎ ЗА БЯСЦЭНАК".

— Праблемы ў еўразоне, сапраўды, глыбокія і сістэмныя. Таму Беларусь чакае тое, што да яе не будзе нікому справы. Нікому! Ні Еўропе з яе праблемамі, ні Расіі з натуральным патанненнем нафты. Беларусь восенню чакае капанне бульбы. Усе грандыёзныя планы па прыватызацыі, што павінна была адбыцца ўжо ўчора, афармленыя не ў лепшы момант. Беларусь з яе "смачнымі кавалкамі" і "жамчужынамі" на вачах таннее як аб'ект інвестыцый. У цэлым інвестыцыйны клімат пагаршаецца, а ў такіх экзатычных і рызыкоўных месцах ён пагаршаецца шматкроць.

**АПЫТАННЕ ПАДРЫХТАВАЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДА ВЕДАМА**

"Сітуацыя на фінансавым рынку Беларусі ў значнай ступені залежыць ад сітуацыі ў еўразоне. На сёння можна разглядаць тры сцэнарыі развіцця падзей у еўразоне — катастрафічны, прамежкавы і аптымістычны, аднак усе яны могуць прывесці да негатыўных наступстваў для Беларусі: гэта дэвальвацыя нацыянальнай валюты, адток капіталу, нізкая інвестыцыйная актыўнасць і, як вынік, спад вытворчасці ў рэальным сектары», — паведаміў **загадчык кафедры «Арганізацыя і аналіз прапрымальніцкіх працэсаў» БНТУ Л.Жалтанога** ў гутарцы з карэспандэнтам агенцтва "Інтэрфакс-Захад».

Паводле яго слоў, «катастрафічны сцэнарый» развіцця падзей у зоне еўра прадугледжвае знікненне еўра як валюты. Па словах Л.Жалтаногі, «найбольшы патэнцыял развіцця мае першы сцэнарый».

Пры такім сцэнары «наступіць сур'ёзнае выпрабаванне для нашай эканомікі. Курс долара ў адносінах да расійскага рубля можа вырасці да 50 расійскіх рублёў / $1, і не выключана, што нам прыйдзецца плаціць за $1 Br13—15 тыс.», — сказаў вучоны.

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# САЮЗНЫ САЎМІН: ХАЦЕЛІ АДМОВІЦЦА, АЛЕ ЗГАДЗІЛІСЯ

Справядлівае пытанне: "Што лічыць гэтымі інтарэсамі?" У выпадку з пакупкай "Белтрансгазу" Расія фактычна паказала, што расійскі інвестар можа паклапаціцца і пра народ, а значыць — пра дзяржаву: напрыклад, падняць заробак людзям у некалькі разоў.

Трэцяе, і самае важнае — змяншэнне колькасці аргументаў з беларускага боку для магчымасці манеўравання ў стасунках з Расіяй. На заўвагу Мядзведзева наконт неабходнасці пакарання вінаватых у рээкспарце расійскіх нафтапрадуктаў пад выглядам беларускіх растваральнікаў Міхаіл Мясніковіч толькі і змог сказаць, што ён падзяляе трывогу партнёра. Расійскі прэм'ер прапанаваў адвязаць адносіны ад нафтагазавага пытання і перамясціць іх у поле вытворчых адносін. Пад гэтым можна разумець стварэнне сумесных вытворчасцей. Хто будзе іх кантраляваць, пакуль што не зразумела. Можна толькі здагадвацца.

"Наша задача — замацаваць пазітыўнае развіццё двухбаковых адносін. Гэта значыць, што яны павінны мець аснову не толькі ва ўзаемных пастаўках тавараў, але і на інтэграцыйных праектах", — заявіў Д.Мядзведзеў, не ўдакладніўшы, што гэта за праекты.

Аднак паралельна ён сказаў, што аб'яднанне МАЗа і КамАЗа знаходзіцца ў "прасунутай стадыі", зрабіў намёк наконт "Беларуськалію". Хіба толькі МТС не ўзгадаў.

Дарэчы, 18 ліпеня намеснік міністра фінансаў Расіі Сяргей Старчак у кулуарах пасяджэння Саўміна Саюзнай дзяржавы заявіў, што ў Беларусі ёсць усе шанцы атрымаць чацвёрты транш крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС да канца бягучага года. І хаця, як ён заўважыў, дзяржпраграма прыватызацыі рэалізоўваецца з цяжкасцю, Антыкрызісны фонд "негатыўных сігналаў аб выкананні рэспублікай сваіх абавязацельстваў не падае". Ці азначае гэта, што Беларусь ужо падала ўсе неабходныя пазітыўныя сігналы?

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

# ЦІ ПАСМЯЕЦЦА НАРОД НА ГЭТЫХ ВЫБАРАХ

Панядзелак дзень вясёлы. 16 ліпеня Аляксандр Лукашэнка паабяцаў празрыстыя выбары ў Палату прадстаўнікоў, а аўтар знакамітага перформансу "Мусорок" заявіў пра намер патрапіць у дэпутаты.



## МІСІЯ АД СНД АДНАЗНАЧНА СПРАВІЦЦА!

Заўважана, што назіральнікі ад Садружнасці Незалежных Дзяржаў пад кіраўніцтвам выканаўчага сакратара СНД Сяргея Лебедзева надта пазітыўна ўспрымаюць беларускія выбары. Таму нядзіўна, што гэтага чыноўніка Аляксандр Лукашэнка прымаў з прыемнасцю.

— Мы здесь ничего не прячем, вы это знаете. Выборы мы хотим провести открыто, транспарентно, достойно. А главное, чтобы выборы были легитимны, а это зависит от того, насколько свободным будет волеизъявление, — з сур'ёзным тварам казаў кіраўнік дзяржавы. — Мы всегда с удовольствием приглашаем миссию СНГ и хотим, чтобы вы её возглавили как обычно, потому что доверие к вам очень высокое в Беларуси.

— Наш предыдущий опыт наблюдения показывает, что, как правило, мы получаем всемерную поддержку от всех структур власти в Беларуси, от Центризбиркома, и поэтому есть основания полагать, что наша миссия справится со своими обязанностями, — пажартаваў у адказ Лебедзеў.

Сапраўды, аб празрыстасці беларускіх выбараў ходзяць легенды. Нават у Зімбабвэ, якім ужо больш за 30 гадоў кіруе дыктатар Роберт Мугабэ, апазіцыя шырока прадстаўлена ў парламенце. А ў нас мінулым разам ва усіх 110 акругах у першым жа туры "перамаглі" прыхільнікі Лукашэнкі. Трыумф "транспарэнтнасці"!

І падстаў лічыць, што сёлета будзе інакш,пакуль што няма. У выбарчыя камісіі патрапілі адзінканыя прадстаўнікі апазіцыйных партый. Таму лічыць галасы і падводзіць вынікі, як заўсёды, будуць праверапыя людзі, якія забяспечылі ўжо не адну "элегантную перамогу".

Выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу нагадваюць рытуал, які беларусам наканавана выконваць раз у чатыры гады. На ўчастках для галасавання не вырашаецца анічога, але ўлада патрабуюць прыйсці туды дзеля таго, каб вонкава ўсё выглядала "достойно".

## ...ЦІСНІ НА ТРЫ КНОПКІ — І ЎСЁ

Таму найбольш адэкватнай выглядае рэакцыя аўтара знакамітага перформансу "Мусорок" Івана Амельчанкі. Ён абвясціў пра намер пазмагацца за мандат і змясціў перадвыбарную праграму.

— Главная моя задача — получить работу депутата, —адзначыў Іван Амельчанка. — Сейчас я безработный, а в парламенте зарплаты выше среднего, квартира, машина, все дела. Ну и делать ничего не надо — жми на три кнопки, и все.

Амельчанка мае шэраг арыгінальных ідэй наконт таго, як вырашыць праблемы нашай краіны. У прыватнасці, са знешняй палітыкай ён прапанаваў разабрацца наступным чынам.

— Необходимо провести референдум по переименованию Беларуси, например, в Беларусь-2 или СуперБеларусь. Таким образом, все прежние договоры станут недействительными и автоматически аннулируются.

Відавочна здзеклівае стаўленне Амельчанкі да выбараў рэзка кантрастуе з шалёна сур'ёзнымі спрэчкамі апазіцыйных палітыкаў наконт таго, байкатаваць гэтую кампанію ці брацць у ёй удзел. Зразумела, што і першы, і другі варыянты бесперспектыўныя. Магчыма, роля блазна ў дадзеным выпадку найбольш удзячная. Прынамсі, калі народ пасмяецца з выбараў, гэта ўжо будзе перамогай дэмакратаў.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# КОЛЬКІ ШАНСАЎ ЁСЦЬ У АПАЗІЦЫІ ПАТРАПІЦЬ У ПАЛАТУ ПРАДСТАЎНІКОЎ

Ці хапіла на гэты раз апазіцыі часу для таго, каб падрыхтавацца да парламенцкай кампаніі? І ўвогуле, ці рыхтаваліся незалежныя палітыкі да выбараў?

**Пра гэта "Тут і цяпер" папрасіла паразважаць некаторых экспертаў.**




*Вельмі пасуе да нашай рэчаіснасці*

## ПА ВОСЕНІ ЧАКАЦЬ 500 ДОЛАРАЎ СЯРЭДНЯГА ЗАРОБКУ?

Звычайна пасля любой выбарчай кампаніі, калі надыходзіць час для аналізу і "разбору палётаў", многія палітыкі, якія лічаць сябе дэмакратамі, кажуць: мы прайгралі, таму што не было доступу да інфармацыйных рэсурсаў, таму што ў прадстаўнікоў улады было больш часу і магчымасцей для падрыхтоўкі, таму што вакол суцэльныя фальсіфікацыі і гэтак далей...

**Палітолаг Валерый Карбалевіч** лічыць, што ў апазіцыі і цяпер вельмі мала шанцаў патрапіць у Палату прадстаўнікоў.

*"Уласна кажучы, гаворка нават не пра выбары, а пра палітычную кампанію, якая не мае выразна вызначаных мэт і задач, — разважае аналітык. — Няма індыкатараў, на падставе якіх можна было б сказаць, што кампанія прайшла паспяхова альбо правалена. Таму гаварыць пра гатоўнасць да выбараў вельмі складана. Усё ў гэтай кампаніі неяк няпэўна...".*

На пытанне "Ці патрапіць усё ж такі апазіцыя ў парламент?" Карбалевіч адказвае так: *"Думаю, апазіцыя апрыёры не можа трапіць у парламент, таму што сапраўдных выбараў у краіне няма. Калі хтосьці і патрапіць, то толькі таму, што такое рашэнне прыме выканаўчая ўлада. Але зноў жа, я з цяжкасцю веру, што такое будзе. Да таго ж гэтыя выбары, на мой погляд, нікому нецікавыя — ні ўладзе, ні грамадству, ні Захаду. Напэўна, упершыню за апошнія гады ў нас такія самотныя выбары".*

А вось улада, на думку палітолага, да выбарчай кампаніі рыхтуецца.

*"Нездарма ж Лукашэнка так настойліва патрабуе давесці сярэднюю зарплату да 500 долараў, — кажа Валерый Іванавіч. — Улада павінна з чымсьці ісці на выбары".*

## ІЗНОЎ УСЁ СПІШАМ НА СКЛАДАНЫЯ ЎМОВЫ?

Са слоў намесніка старшыні Партыі БНФ экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010 **Рыгора Кастусёва** вынікае, што апазіцыя не падрыхтавана да парламенцкай кампаніі.

*"Я скажу так: падрыхтаваны настолькі, наколькі сёння дазваляюць умовы падрыхтавацца апазіцыі да гэтых выбараў,* — гаворыць Рыгор Андрэевіч. — *Канечне, хацелася б лепш, але ацэнку трэба даваць адпаведна ўмовам, у якіх зараз знаходзіцца апазіцыя. Таму сёння патрабаваць ад апазіцыі нечага большага, я лічу, не зусім правамерна".*

## КАЛІ КОЖНЫ САМ ЗА СЯБЕ...

Старшыня арганізацыйнага камітэта па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Навасяд** пакуль што не можа знайсці адказ на пытанне, ці збіраецца хто-небудзь увогуле нешта рабіць на гэтых выбарах.

*"Пытанне ў тым, хто і што збіраецца рабіць на гэтых выбарах,* — разважае палітык. — *Калі хтосьці агітуе за байкот, то мяне цікавіць, што канкрэтна для гэтага будзе зроблена; калі за ўдзел — то з чым пойдуць і што робяць, каб людзі пачулі слова кандыдата? Мне цікава: хоць нехта збіраецца штосьці рабіць на гэтых выбарах?*

*Аналітыкі пішуць, што мы*

*ўжо прайгралі гэтыя выбары. Палітыкі, якія байкатуюць выбары, наогул, па-мойму, нічога рабіць не збіраюцца. Тых, хто ідзе на выбары ад апазіцыі, вельмі мала. На мой погляд, адзіны, хто ўжо падрыхтаваўся да выбараў, — гэта ўлада.*

*На жаль, у апазіцыі няма адзінага сцэнарыя — гэта, напэўна, самае сумнае ў цяперашняй сітуацыі. Кожны сам за сябе...*

*Ці ёсць пры такім раскладзе ў апазіцыянераў шанцы патрапіць у Авальную залу? Цяжка сказаць. Шчыра кажучы, я нават не ведаю, хто з дэмакратычных "цяжкавагавікоў" наогул ідзе на выбары. У нас вельмі многія хочуць назіраць, пісаць аб парушэннях правоў чалавека і свабод. Але вельмі мала кандыдатаў, на прыкладзе якіх уся гэтая інфармацыя будзе здымацца. Таму цяжка нават разважаць пра тое, з чым апазіцыя падышла да гэтых выбараў і якім будзе вынік".*

## ГОРКАЯ ПРАЎДА АД ВОЛЬГІ КАРАЧ

Кіраўнік зарэгістраванага ў Чэхіі Міжнароднага цэнтра грамадзянскіх ініцыятыў "Наш дом" **Вольга Карач** не стала хадзіць навокал ды вакол і адразу заявіла: апазіцыя не гатова да парламенцкіх выбараў. Яна агучыла пяць прычын, па якіх апазіцыя не мае шанцаў на перамогу.

*"Першая — псіхалагічная траўма пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года, калі ілюзія свабоды (у тым ліку апазіцыйныя палаткі каля ГУМа) рэзка і невытлумачальна змянілася крывавым разгонам мірнай дэманстрацыі 19 снежня 2010 года і ў турме апынуліся ўсе штабы і апазіцыйныя кандыдаты, — аналізуе палітык.*

*Другая — вера ў тое, што лёс Беларусі вырашае хто заўгодна, толькі не беларускі народ. Такое меркаванне распаўсюджана і сярод апазіцыі, і сярод насельніцтва. А калі народ нічога не вырашае, то які сэнс праводзіць падрыхтоўчую работу і наогул працаваць з ім? Працаваць трэба з тымі, хто прымае рашэнне. Менавіта таму сёння (дарэчы, і не толькі сёння) па краіне гуляюць чуткі пра нібыта "15 пустых месцаў" у спісах будучых дэпутатаў парламента, пададзеныя ў адміністрацыю А.Лукашэнкі.*

*Трэцяя — нізкі ўзровень матывацыі да падрыхтоўкі і ўдзелу. Паколькі ў краіне адсутнічае свабодны падлік галасоў і самі выбары нельга назваць сумленнымі, то ад падрыхтоўкі (добрай ці дрэннай) нічога не залежыць. Мяркуйце самі: у 2004 годзе падчас агітацыйнай кампаніі на парламенцкіх выбарах мая каманда набрала 25 000 подпісаў, мы прайшлі акругі па тры разы, і былі людзі ад апазіцыі, хто проста "вісеў" у спісах. Пры добрай падрыхтоўчай рабоце і пры яе адсутнасці вынік аднолькавы. Дык які сэнс тады рыхтавацца?*

*Чацвёртая — адсутнасць работы над памылкамі. За апошнія 18 гадоў ні разу не было публічнага аналізу поспехаў і памылак, і не было ніякіх змен у "сцэнарыях" наступных выбарчых кампаній. На жаль, адзіная палітычная сіла, якая робіць такі аналіз, і вынік, як кажуць, навідавоку, — гэта адміністрацыя Лукашэнкі. Мы назіраем, што "ў іх" інфармацыя сцякаецца ў нейкі адзіны цэнтр, і калі недзе ў глыбінцы было вынайдзена нешта крэатыўнае і эфектыўнае па барацьбе з "чужымі элементамі", то будзьце ўпэўнены — на наступных выбарах гэты метад будзе ўкаранёны па ўсёй краіне. На жаль, трэба прызнаць, што Аляксандр Лукашэнка вучыцца на сваіх памылках і высновы з іх робіць. На сваю карысць, вядома.*

*Пятая — з кожным днём памяншаецца колькасць актывістаў у дэмакратычных арганізацыях. З кампаніі ў кампанію заўважна, як радзеюць шэрагі дэмакратаў. Гэта ўплывае не толькі на колькасны, але і на якасны склад актывістаў. Параўнайце, колькі людзей, напрыклад, назірала за выбарамі ў 2001 годзе, у 2006 і колькі будзе назіраць у 2012. Гэта лічбы іншага парадку, і розніца будзе ў сто разоў. Зразумела, што бясконцыя рэпрэсіі і масавая эміграцыя беларусаў зрабілі сваю "чорную справу", але каб быць гатовым да выбараў, у першую чаргу неабходна валодаць неабходнымі чалавечымі рэсурсамі. Кажучы простай моваю, павінны быць людзі. А хіба яны ёсць?..".*

**МАРЫНА МІТ**

# ЖАННА ЛІТВІНА: ВАЮЮЦЬ З "КАРЦІНКАЙ", А НЕ З ПРАБЛЕМАМІ

Калегі Антона Сурапіна працягваюць пратэставаць супраць затрымання маладога фатографа і змяшчэння яго ў СІЗА КДБ.

"Абсурд доўжыцца і множыцца, - кажа старшыня ГА "БАЖ" Жанна Літвіна. - Кожны дзень, які праходзіць без усялякіх звестак пра лёс Антона, дадае трывогі і неразумення. А адсутнасць якой-кольвек афіцыйнай інфармацыі – ад Савету бяспекі, ад Мінабароны, ад спецыяльнай камісіі па расследаванні парушэння дзяржаўнай мяжы,– стварае ўражанне, што галоўнае для ўладаў не сам інцыдэнт, а тое, каб ён не быў зафіксаваны. Грамадскую думку хочуць адвесці ў іншы бок. А на самой справе праблема, відаць, існуе, і чым больш яе замоўчваюць, тым больш гэта абурае..."

Тэрміноваага вызвалення Антона Сурапіна, які знаходзіцца за кратамі ўжо шосты дзень, запатрабаваў шэраг журналісцкіх і праваабарончых арганізацый – у тым ліку "Рэпарцёры без межаў", "Камітэт абароны журналістаў", Міжнародная і Еўрапейская федэрацыі журналістаў.

18 ліпеня калегі Антона ў Беларусі зладзілі фотасесію салідарнасці з заклікам вызваліць яго з-за кратаў.

19 ліпеня яны працягваюць акцыю салідарнасці, апрануўшы адмысловыя майкі "No pictures-No problems?" ("Няма карцінак – няма праблем?")

"Сёння можна толькі парадавацца той кансалідацыі, якую праяўляюць журналісты, занепакоеныя лёсам Антона, - кажа Жанна Літвіна. - Мы спадзяемся, што засталіся лічаныя гадзіны яго незразумелага ўтрымання за кратамі..."

**ПРЭС-СЛУЖБА ГА "БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ"**




*Няма фотак – няма праблем?*

# ЦІ МОЖА ПРЫПЫНІЦЦА НЕДЗЯРЖАЎНАЕ БУДАЎНІЦТВА

Штучна павышаць кошт камерцыйнага жылля пакуль што немэтазгодна. Менавіта такую думку выказаў нашаму выданню дырэктар рыэлтарскай кампаніі "Віва Кансалт" Юрый Жаркоў.



*Кошты на жыллё свайго апошняга слова пакуль не сказалі*

## 2000 $ — ЗА МЕТР. І КРОПКА!

Справа ў тым, што крыху раней старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька прапанаваў забудоўшчыкам камерцыйнага жылля пакрываць яшчэ і выдаткі на забудову інжынерна-транспартнага сектара.

Сваю пазіцыю мэр сталіцы тлумачыў тым фактам, што калі ў горада былі магчымасці, то будаўніцтва інжынерна-транспартнай інфраструктуры фінансавалася з мясцовага бюджэту. У выніку асобныя грамадзяне будавалі сабе другія і нават трэція кватэры па льготным кошце без уліку гэтых затрат. Цяпер у Мінску існуе пэўны клас уласнікаў, якім належыць каля 50 тысяч "другіх-трэціх-чацвёртых" кватэр. Сёння гарадскія ўлады прапаноўваюць будавацца багатым "нечаргавікам" па рэальным кошце, які з улікам выдаткаў на інжынерна-транспартную інфраструктуру складзе не менш як 2 тысячы долараў за квадратны метр.

## УДАР ПА КІШЭНІ БУДЗЕ НАДТА МОЦНЫМ

Наш эксперт **Юрый Жаркоў** адзначае, што практыка сумеснага фінансавання інжынерных сетак горадам і камерцыйнымі забудоўшчыкамі дзейнічае ўжо сёння:

— Існуюць праекты, напрыклад, у раёне вёскі Сухарава, дзе вядзецца комплекснае будаўніцтва жылых дамоў. У гэтым месцы больш за 10 дэвелапераў будуюць 15–20 жылых дамоў. Да кожнага такога дома неабходна падвесці магістральныя сеткі, якія будуць належаць гораду. У гэтым выпадку кожны заказчык часткова ці цалкам фінансуе будаўніцтва такіх сетак.

Яшчэ да пачатку будаўніцтва жылых дамоў камерцыйныя забудоўшчыкі дамаўляюцца з гарадскімі ўладамі аб долі фінансавання такіх аб'ектаў.

Цяпер у Мінску існуе пэўны клас уласнікаў, якім належыць каля 50 тысяч "другіх" кватэр.

Аднак калі камерцыйным забудоўшчыкам прапануюць абавязкова фінансаваць будаўніцтва ўсёй сацыяльнай інфраструктуры вакол жылых дамоў, то гэта будуць ужо крыху іншыя і сапраўды вялікія затраты. Пра якія дадатковыя сумы можа ісці гаворка? Папярэдне падлічыць даволі цяжка. У першую чаргу гэта залежыць ад аб'ёмаў жыллёвай забудовы. Калі забудоўшчык узводзіць 10 жылых дамоў і адзін дзіцячы садок, то гэта будзе біць па кішэні інвестыцыйнай кампаніі не так моцна. А калі дробны забудоўшчык будуе адзін жылы дом, а яму прапануюць пабудаваць яшчэ і нейкі сацыяльны аб'ект?..

## ПЛЮС ДАРАГІЯ ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ КРЭДЫТЫ

Сёння ў сталіцы камерцыйныя забудоўшчыкі будуюць не толькі элітнае і дарагое жыллё, але і стандартныя дамы масавай забудовы эканом- і камфорткласаў, дзе квадратны метр прапаноўваецца кліентам не больш як за 1,5 тысячы долараў. Павышаць штучна кошт такога жылля цяпер не мае сэнсу, бо яго проста не будуць набываць, перакананы Юрый Жаркоў.

Панэльныя дамы крыху ніжэйшага класа на сталічным рынку зараз каштуюць каля тысячы долараў, а каркасныя — 120–1300 долараў за квадратны метр агульнай плошчы. Сярэднестатыстычны пакупнік такога жылля сёння не мае дастаткова сродкаў, каб набываць (будаваць) кватэры па кошце каля 2 тысяч долараў за квадратны метр. Выкарыстоўваюць доўгатэрміновыя крэдыты банкаў звычайным кліентам будзе цяпер таксама складана, бо яны пакуль што вельмі дарагія.

Што адбудзецца, калі на камерцыйных забудоўшчыкаў усё ж такі паспрабуюць ускласці фінансаванне яшчэ і сацыяльных аб'ектаў у поўным аб'ёме? Юрый Жаркоў лічыць, што гэтага не дасягнуць без паляпшэння дабрабыту, бо інакш буйныя забудоўшчыкі пачнуць звужваць сваю прысутнасць на рынку масавага будаўніцтва жылля, а дробныя кампаніі знікнуць увогуле.

**ГЕНАДЗЬ ВЕРАЦІЛА**

# БЕЛАРУСКІ ВЫПУСКНІК ЗА 60 МЛН

Еўрарадыё адшукала Арцёма, якому размеркаванне аплачвае расійская фірма па здабычы ўгнаенняў.

Арцёму Качароўскаму пашанцавала. Замест размеркавання выпускнік факультэта горнай справы і інжынернай экалогіі БНТУ паедзе здабываць фосфарныя ўгнаенні ў расійскі Кіраўск. На нармальны заробак.

“Вучыўся на горнага інжынера-механіка. Знайшоў размеркаванне на Мінскі завод імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але з’явілася прапанова паехаць у Расію. Паеду туды. Гэта горад Кіраўск, прадпрыемства займаецца здабычай фосфарных угнаенняў”, — расказвае Арцём.

Як высветліла Еўрарадыё, на станкабудаўнічым заводзе ў Мінску Арцёму абяцалі каля 2,5 мільёнаў рублёў. У Расіі — больш за тысячу долараў. Адна праблема: за 5 гадоў бюджэтнага навучання ён вінен дзяржаве каля 60 мільёнаў рублёў. Але… расійская фірма заплаціць.

“Яны прыязджалі да нас на кафедру. Быў конкурс, трэба было некалькі тэсціраванняў прайсці. Прыязджала жанчына з Кіраўску — інспектар па кадрах. І ў выніку мне даслалі запрашэнне”, - кажа Арцём.

Будзе не сумна, бо ў Кіраўск едзе і яго аднакурсніца. Выпускнікоў БНТУ ў гэтым годзе выкупаюць упершыню. Сёлета ў гэтай ВНУ ад размеркавання за грошы адкупляюцца пяць чалавек, гавораць у аддзеле кадраў:

“У гэтым годзе больш, чым летась. Яны самі пішуць заяву: "Прашу зрабіць разлік і выдаць свабоднае размеркаванне". Мы не адмаўляем”, - гавораць у аддзеле кадраў БНТУ.

Паводле Кодэксу аб адукацыі, разлічыцца за вучобу можна без суда. Адразу на месцы.

У Магілёўскім універсітэце імя Куляшова ад адпрацоўкі адкупляецца пару чалавек. Адзін выпускнік ужо выплаціў грошы, прыгадвае прарэктар гэтай ВНУ Мікалай Бузук:

“Пакуль толькі пару чалавек. Адзін ужо выплаціў. Вось цяпер на прыёме мама выпускніцы факультэта журналістыкі. Глуская газета іх не задаволіла. Дзяўчына з Клічава”.

Не захацела працаваць за 180 кіламетраў ад дому.

**АРЦЁМ МАРТЫНОВІЧ**

# ЦІ САП'ЕЦЦА "ПРЭЗІДЭНЦКІ" РАЁН?

**На малой радзіме Аляксандра Лукашэнкі расце ўзровень падлеткавай злачыннасці. За шэсць месяцаў 2012 года ў Шклоўскім раёне з удзелам непаўналетніх было здзейснена 8 злачынстваў, між тым як за аналагічны перыяд 2011 года — 3.**

## ТЭНДЭНЦЫЯ НЕАПТЫМІСТЫЧНАЯ

У здзяйсненні злачынстваў у гэтым годзе прынялі ўдзел 9 падлеткаў, а ў 2005 годзе, напрыклад, усяго 5. Іншая адметнасць — накіраванасць злачынстваў: больш як 90% з іх складаюць крадзяжы дзяржаўнай і асабістай маёмасці грамадзян.

На думку кіраўніцтва інспекцыі па справах непаўналетніх Шклоўскага РАУС, асноўнай прычынай падлеткавай злачыннасці з'яўляецца цяжкае матэрыяльнае і, адпаведна, няпростае маральнае становішча ў сем'ях. Штогод у раёне выяўляецца як мінімум 30 нядобранадзейных сем'яў. Ужо сёлета супрацоўнікі міліцыі паставілі на ўлік 12 сем'яў, у якіх бацькі злоўжываюць спіртнымі напоямі. На васьмёра бацькоў рыхтуюцца запыты на пазбаўленне іх бацькоўскіх правоў.

Актуальная ў раёне і праблема злоўжывання спіртнымі напоямі самімі падлеткамі. За мінулы перыяд 2012 года за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства да адказнасці тут было прыцягнута 15 падлеткаў. На ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх раённага РАУС знаходзіцца больш як 60 падлеткаў, з іх менавіта за злоўжыванне алкаголем — 33 чалавекі. Не так і многа, калі параўнаць з "дарослай" статыстыкай: там за той жа час пастаўлена на ўлік ажно 362 грамадзяніны, але ж для грамадскай трывогі хапіла б і аднаго падлетка. На жаль, менавіта гэтай трывогі ў раёне названыя факты не выклікаюць...



*Вядомая хвароба перамагае*

## НЕ СТАЕ КОМПЛЕКСНАГА ПАДЫХОДУ

Усе заняты "сваёй справай": адны дзяцей нараджаюць, іншыя вучаць у школе, трэція назіраюць за дзецьмі па-за школай, чацвёртыя прадаюць падлеткам алкаголь, пятыя ловяць падпітых падлеткаў на вуліцы і дыскатэках, шостыя вядуць статыстыку, сёмыя... ну, і г.д. Насамрэч ніхто падлеткамі не займаецца, бо тут патрэбен комплексны падыход, агульныя скаардынаваныя намаганні.

Як ілюстрацыю да такой высновы можна прывесці той факт, што за паўгоддзе да службовай адказнасці за продаж алкаголю падлеткам прыцягнуты толькі адзін прадавец. Тут так: альбо ён адзін і прадаваў на працягу ўсіх гэтых месяцаў спіртныя напоі падлеткам, альбо ніякага нагляду і кантролю за гэтым працэсам няма (у першае, згадзіцеся, паверыць значна цяжэй).

І яшчэ адметнасць, на якую звяртаюць увагу грамадскія актывісты ў раёне разам з меркаваным кандыдатам у дэпутаты Нацыянальнага сходу Рыгорам Кастусёвым. Не дапамагаюць пакуль што тыя строгія меры дэалкагалізацыі раёна, пра якія так шырока было абвешчана месяц назад. Яно і вядома: аднымі забараняльнымі мерамі гэтую праблему не вырашыць. Нікому — ні ЗША ў далёкія 20-я гады мінулага стагоддзя, ні СССР у адносна далёкія 80-я — забаронамі і пакараннямі згаданую праблему вырашыць не ўдалося.

## ПРАФІЛАКТОРЫЙ БЕЗ ДВУКОССЯ

Сёлета ў Шклоўскім раёне на ўлік да ўрача-нарколага пастаўлена 32 мужчыны і 29 жанчын, а 14 чалавек увогуле накіраваны на прымусовае лячэнне ў лячэбна-працоўны прафілакторый (афіцыйныя крыніцы не бяруць прафілакторый у двукоссе, і мы не будзем).

Няўжо нічога больш эфектыўнага не можа прыдумаць наша дзяржава з усім яе моцным ідэалагічным і адміністратыўным апаратам, не гаворачы ўжо пра наяўнасць шырокага кола настаўніцтва і медыцынскіх работнікаў?!. Абралі б "прэзідэнцкі" раён (так называюць Шклоўскі раён у рэгіёне) за эксперыментальную пляцоўку — мо і атрымалася б што добрае! А пакуль што гэты раён, пры ўсёй сваёй мемарыяльнасці і штогадовым размашыстым "скліканні сяброў", вызначаецца не перамогамі ў сацыяльных паказчыках, а пагаршэннем сітуацыі ў тым, што называецца культурай, дысцыплінай, прыстойным укладам жыцця. Вось ужо і маладое пакаленне далучаецца да п'янства і злачыннасці.

**ІВАН БАРЫСАЎ**

# ХТО АТРЫМЛІВАЕ ЗАРОБКІ, ЯК БЕЛСТАТ ПАЛІЧЫЎ

**На сярэдні заробак па дадзеным Белстата настаўніку з пяцігадовым стажам трэба працаваць на паўтары стаўкі.**

Настаўнікі, прадаўцы, спецыялісты сельскай гаспадаркі, лекары атрымліваюць менш за ўсіх — іх прыбыткі на ўзроўні 2,8-2,9 мільёна. У той час як сярэдні заробак па краіне пераваліў за 3,5 мільёна рублёў.

Настаўніца Наталля з Лунінецкага раёна працуе ў школе пяць гадоў, выкладае нямецкую мову. Атрымлівае 2,8 мільёна, але ... за паўтары стаўкі! Менавіта такі сярэдні заробак настаўнікаў. Усе працуюць на паўтары стаўкі?

"На стаўку столькі не зарабіш! А вось за 28 гадзін у тыдзень можна", — раскрывае сакрэты заробку паводле Белстату Наталля.

Заробак мінскага будаўніка Ігара — 2,3 мільёна, што ніяк не сыходзіцца з агучанай Белстатам лічбай у 4 мільёны.

"Можа недзе і атрымліваюць "сярэднюю", але там, дзе я працую — не", — заўважае Ігар. Дапамагае халтура.

Дарэчы, праца асенізатараў у Мінску каштуе 2,5 мільёна. На прадпрыемстве прызнаюць, што гэтага мала:

"У іншых арганізацыях больш атрымліваюць, але наш гаспадар так вырашыў — 2,5 мільёна. Хоць за такую працу і праўда трэба плаціць больш".

Кіроўца тралейбуса маршруту № 64 Вадзім за 180 гадзін працы ў месяц атрымліваў практычна сярэднебеларускі заробак паводле Белстату — 3,5 мільёна рублёў:

Больш за ўсё здзіўляе прыбытак тых, хто нас ратуе, — лекараў. Сярэдні заробак медыкаў па краіне — 2,9 мільёна.

" У участковых тэрапеўтаў заробкі – 2-2.2 мільёны, у стацыянары, калі многа дзяжурств, тады так, можна атрымаць тры мільёны", — кажа доктар Вольга з Лепеля. Яна з 9-гадовым стажам атрымлівае 2 мільёны. Яшчэ 900 000 рублёў растварыліся ў белстатоўскай смузе.

**ТАМАРА САВІЧ**

# І ЭКОЛАГАМ САМАЕ МЕСЦА Ў ТУРМЕ?

**У Мінску затрыманы актывістка беларускай антыядзернай кампаніі старшыня грамадскага аб'яднання «Экадом» Ірына Сухій, каардынатар кампаніі Таццяна Новікава і расійскі фізік-ядзерршчык Андрэй Ажароўскі.**



*А здавалася б, экалогія абсалютна мірная справа*

Яны планавалі перадаць у пасольства РФ адкрытызваротсупрацьпадпісаннягенеральнагакантракта на будаўніцтвабеларускай АЭС. Затрыманы таксама і праваабаронца Міхаіл Мацкевіч, які выходзіў з офіса "Зялёнай сеткі" разам з Сухій.

Не выключана, што затрыманым інкрымінуюць арганізацыю несанкцыянаванай акцыі, якую напярэдадні на месцы будучай беларускай АЭС правяла група маладых людзей. Удзельнікі ўчарашняй акцыі разгарнулі транспаранты са словамі «Крыем матам ваш Расатам» і «Нас не спыталі!». На фоне інфармацыйнагастэнда і збудаванняўінфраструктурыбеларускай АЭС з'явіласясімвалічнаяядзернаяСмерць з рыдлёўкай і плакатам «Будуеце АЭС? Тады я іду да вас».

Вось як пракаментаваў для "Тут і цяпер" гэтую сітуацыю экалагічны актывіст Яраслаў Бекіш:

— Па-першае, пакуль што невядомы дэталі затрымання —ці былі прад'яўлены абвінавачанні.Па-другое, невядома, ці брыдкасловілі "антыядзершчыкі". Па-трэцяе, магу нагадаць, што гэта ўжо другое затрыманне Ажароўскага ў Беларусі. Першы раз яго «павязалі» за тое, што ён нібыта накінуўся на міліцыянтаў, калі спрабаваў прынесці дакументы з тэкстам крытычных каментараў на дакумент АУНА (ацэнка ўздзеяння на навакольнае асяроддзе) АЭС на так званыя грамадскія слуханніў Астраўцы пару гадоў назад. Тады ён адседзеў суткі.

Яраслаў Бекіш ведае асабіста ўсіх затрыманых:

– Я асабіста ведаю ўсіх затрыманых, з некаторымі мы нават даўніясябры. Ірына Сухій, напрыклад, — адна з самых яркіх лідараў экалагічнага руху на постсавецкай прасторы. Дзякуючы ёй развіваюцца многія працэсы ў сферы аховы навакольнага асяроддзя.

Іронія лёсу заключаецца ў тым, што многія "экалагічныя" актывісты, у тым ліку і Ірына Сухій, і Таня Новікава, не проста выступаюць супраць ядзернай энергетыкі,у прынцыпе, але і фактычна з'яўляюцца жыхарамі таго рэгіёнаБеларусі, дзе збіраюцца будаваць атамную станцыю. У многіх з нас (праўда, не ў мяне асабіста) там ёсць дачы і хутары.

Андрэй Ажароўскі таксама вельмі цікавы чалавек. Яго ведаюць вядомыя экологі ў рускамоўнай прасторы і большасць — у англамоўнай. Ва Украіне, Казахстане, амаль ва ўсіх рэгіёнах Расіі, калі гаворка заходзіць пра Ажароўскага,усе ўсміхаюцца і кажуць: Андрэй —гэта наша ўсё. Прычынай таму — яго бездакорная кампетэнтнасць ва ўсіх пытаннях, што звязаны з ядзернай энергетыкай, у тым ліку рызыкі, эканамічныя абгрунтаванні, медыцынскія наступствы і г.д., і, безумоўна, харызма.

Пару слоў пра Таццяну Новікаву. Таню асабліва баяцца чыноўнікі. Яна надта скрупулёзны чалавек, які абраў сваёй місіяй барацьбу за права людзей на здаровае навакольнае асяроддзе. З АЭС у яе свае рахункі: у мінулым годзе яна перанесла некалькі апераций і хіміятэрапію. І нават убальніцы працягвала пісаць артыкулы і лісты, накіраваныя на барацьбу з атамнай пагрозай.

Міша Мацкевіч — пачынаючы праваабаронца і наш агульны сябар з Цэнтра прававых трансфармацый. Дарэчы, выпускнік МДЭУ імя Д.Сахарава гэтага года.

Нагадаем, што ў ізалятары КДБ знаходзіцца Антон Сурагін, які змясціў на сваім сайце відэа і фотаздымкі палёту шведаў над Беларуссю і раскідванне імі цацачных мядзведзікаў. На шмат якіх незалежных журналістаў заведзены адміністратыўныя і крымінальныя справы. Цяпер, выходзіць прыйшла чарга і незалежных эколагаў.

**ВІКТАР АЛЯШКЕВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 19.07.12
Тыраж 299 экзэмпляраў